Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр.250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 5. Вільня, Пятніца, 29-га лютага 1924 г. Год I.

## Генаральная баталія.

„Дэмакратызм" сучаснае Польшчы, як дагэтуль, абмяжовываецца адно толькі тым, што—раз на пяць гадоў—кожын грамадзянін мае права падаць свой голас на выбарах соймавых паслоў і сэнатараў.

Запраўды, апрача ўчасьця ў выбарах, народ абсалютна адсунены ад кіраваньня сваімі штодзеннымі справамі, якія вырашаюць *за яго* і часта *супроць ягонае волі* дзяржаўныя ўрадоўцы (чыноўнікі).

Яшчэ на этнаграфічна польскай тэрыторыі істнуе прынамся хоць цень самаупраўленьня, як спадчына, пакінутая панаваўшымі раней над Польшчай дзяржавамі: Аўстрыяй, Нямеччынай і Расеяй. Але на беларускай тэрыторыі, дый наагул на такзваных „Усходніх Крэсах", старыя маскоўскія самаўрады захаваліся толькі па вялікшых мястох. На вёсцы-ж польская ўлада фактычна скасавала старую воласьць, якая *выбірала* свой кіраўнічы орган—„валаснoе праўленьне", і замяніла воласьць „гмінай", у якой прынцып выбарнасьці на практыцы падменены прынцыпам *назначэньня* „гмінных радаў" панамі старостамі.

Як бачым, аб „дэмакратызме" таго ладу, які Польшча ў нас завяла, гаварыць ня прыходзіцца. Але бяда ў тым, што чыноўніцка-паліцэйскае панаваньне ня толькі не зьмяшчаецца ў тых аснаўных законах гаспадарства, якія называюцца яго канстытуцыяй, а, наадварот, пярэчыць ім. Дзеля гэтага і трэба было знайсьці нейкі „прызваіты" выхад з палажэньня і ўвясьці ў закон тое, што дагэтуль праводзілася ў жыцьцё выключна на аснове загадаў адміністрацыі. Трэба было стварыць такія законы аб грамадзкім самаупраўленьні, якія і надалей пазбаўлялі-бы грамадзянства, народ усялякае магчымасьці самым кіраваць сваім штодзенным жыцьцём, ды абярнулі-бы гміннае і павятовае самаўпраўленьне — паводле выражэньня аднае польскае газэты — у „фальварак пана старосты".

Гэту задачу ўзяў на сябе ўрад п. Вітаса (хіена-пястоўскі), і сябра гэнага ўраду, п. Кернік, апрацаваў праекты законаў аб самаўрадах, пададзеныя Сойму наступнікам п. Вітаса, прэм'ерам Грабскім.

У абшырнай стацьці, якую мы пачалі друкаваць у папярэднім нумары і даем і ў сёняшнім, гэтыя кернікаўскія заканапраекты разгледжаны даволі поўна і ўсебакова. Для кожнага, хто ў іх глыбей унікне, будзе зусім ясна, што яны ламаюць самыя асновы польскае канстытуцыі і зьяўляюцца запраўды „законамі проці самаупраўленьня", заховываючы—асабліва на „Крэсах" — надалей палажэньне, створанае „административным усмотрением", як выражаліся некалі ў Расеі.

Ад таго, ці кернікаўскія праекты атрымаюць у Сойме сілу законаў, ці не, будзе залежаць усё далейшае жыцьцё насяленьня Польшчы. Будзе залежаць перад усім развязка пытаньня, ці і надалей „дэмакратызм" польскага дзяржаўнага ладу мае выяўляцца адно толькі ў праве ўчасьця ўсіх грамадзян у выбарах соймавых паслоў і сэнатараў, ці народ атрымае ўрэшце магчымасьць запраўды ўзяць свае справы ў свае рукі.

Вось чаму ў найбліжэйшыя месяцы ў Сойме (а перад тым у соймавай адміністрацыйнай камісіі) адбудзецца *генаральная баталія* паміж польскімі партыямі „лявіцы" і „правіцы" на грунце кернікаўскага „самаупраўленьня". Але ў гэтай барацьбе проці фальшаваньня ідэі самаўрадаў павінны прыняць чыннае ўчасьце і беларускія паслы: паскольку ад прыняцьця ці няпрыняцьця „законаў проці самаупраўленьня" будзе залежаць моц і сіла Польскае дзяржавы наагул, што цікавіць перадусім самых палякоў, — пастольку для нас у гэтым пытаньні на першым месцы стаіць *справа нашага нацыянальнага быту*. Заканапраекты, ўводзячы „плюральнае" права голасу для „упрывіляваных" элемэнтаў, імкнуцца паставіць польскае панства ў Заходняй Беларусі ў тое самае палажэньне, якое яно займала да скасаваньня прыгону, а *беларускае сялянства пазбаўляюць усялякае магчымасьці ўплываць на грамадзкія справы і абарачваюць у панскіх прыганятых*.... І гэткі новы прыгон суліць нашаму народу няўхільную нацыянальную сьмерць.

Справа гэтая—такая ясная, што на апошнім пленарным сходзе Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні ў мінулую суботу, пасьля зусім кароткага дакладу пасла Ярэміча, была *ўсімі галасамі* прысутных прынята *рэзалюцыя пратэсту проці замаху на самаупраўленьне*, прычым было высказана пажаданьне, каб Беларускі Пасольскі Клюб, як можна лепш, асьведамляў-бы нашы народныя масы аб істоце ўнесеных у Сойм заканапраектаў, якія з нязвычайнай ачывістасьцяй паказуюць усяму сьвету праўдзівае аблічча сучасных „паноў палажэньня" ў Польшчы.

І—дадаю ад сябе — паказуюць запраўдную цану завярэньняў лідэраў польскае правіцы, што, убіваючы нож у сьпіну нашаму народу, вустамі пасла Строньскага колькі дзён таму назад аблыжна заяўляла: „з боку польскага грамадзянства няма ані няпрыхільнасьці, ані тым менш ненавісьці да беларусаў і украінцаў"....

Калі-ж ў „генаральнай баталіі" на грунце самаўрадаў перамога акажацца на старане чорнае рэакцыі, калі Сойм зьдзейсьніць мяркаваньні польскіх абшарнікаў і ўсялякага сорту „наездных" прадстаўнікоў „панючае нацыі" на нашай Зямлі,—тады беларусы, сьвядомыя сьмяротнага прыгавору сабе, павінны будуць зрабіць з утварыўшагася палажэньня *адпаведныя вывады* і грунтоўна *перагледзець усю сваю дасюляшнюю тактыку*.

## Рэзалюцыя Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні, які зьяўляецца рэпрэзэнтацыйным органам беларускага грамадзянства, зарганізаванага ў гэткіх таварыствах і ўстановах: Беларускім Навуковым Таварыстве, Беларускім Выдавецкім Таварыстве, Таварыстве Беларускай Школы, Камітэце Помачы пацярпеўшым ад вайны, Беларускім Грамадзянскім Сабраньні, Беларускім Студэнтскім Саюзе, Бацькаўскім Камітэце Віленскай Беларускай Гімназіі, а такжа ў беларускіх палітычных партыях, дзеючых на абшарах Польскае Рэспублікі,— выслухаўшы на засяданьні сваім 23 лютага 1924 году даклад аб выступленьнях перад францускім урадам у Парыжу палкоўніка Е. Ладнова, каторы—згодна з яго ўласнай заявай („Rzeczpospolita" № 35—1924 г.) — у сваіх мэморыялах ад імя „Беларускага Камітэту ў Польшчы" гаворыць аб зусім „паправных" адносінах Польшчы да беларускага насяленьня яе і аб быццам-то поўным здаваленьні гэтага насяленьня створаным тут палажэньнем,—сьцьвярджае:

1. што п. Ладнов ня толькі не зьяўляецца прадстаўніком беларускага насяленьня Польшчы, але нават з гэтым насяленьнем нічым ня зьвязаны, паходзячы з тэрыторыі, што да Польшчы не належыць (з м. Дзьвінску);

2. што п. Ладнов у бытнасьць сваю ў Польшчы быў сябрам „Беларускага Камітэту ў Варшаве", арганізацыі чыста лёкальнай, закладзенай у свой час выключна дзеля дапамогі беларускім эмігрантам з Усходняе Беларусі ў Варшаве і фактычна даўно ўжо стаўшайся чыстай фікцыяй з прычыны адсутнасьці сяброў;

3. што ўстанова пад назовам „Беларускі Камітэт у Польшчы", ад якое выступае п. Ладнов, ніколі не істнавала і ня істнуе, а функцыі цэнтральнага органу беларускага грамадзянства ў Польшчы фактычна выпаўняе Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні; да якога п. Ладнов не належыць;

4. што заявам п. Ладнова аб „паправнасьці" адносін польскае ўлады да беларусаў і аб „здаваленьні" апошніх пярэчаць чысьленыя соймавыя інтэрпэляцыі і пратэсты проці сыстэматычных гвалтаў польскае адміністрацыі над беларускім насяленьнем, пададаныя ня толькі беларускімі пасламі, але і пасламі палякамі з беларускіх акругоў, а таксама няліченыя факты нацыянальнага ўціску, друкаваныя як беларускай, так і польскай прэсай і нікім ніколі не дэмэнтаваныя;

5. што, урэшце, сыстэматычная палітыка гвалтаў над беларусамі, якая адкрыта імкнецца да фізычнага зьнішчэньня беларускае нацыі ў Польшчы і напамінае сабой найгоршыя часы чорнае рэакцыі ў Расеі, ці практыкі гакатыстаў у Нямеччыне, даводзіць да роспачы беларускія народныя масы, каторыя, як аб гэтым сьведчыць цэлы рад палітычных працэсаў, усё часьцей і часьцей губляюць раўнавагу.

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні пратэстуе проці самазванства п. Ладнова, які даўно ўжо ўтраціў усялякую сувязь з беларускім грамадзянствам, а такжа і ўсялякае права прамаўляць, як ад імя ўсяго гэтага грамадзянства ў цэласьці, так і ад якое-колечы групы яго, бо ні на якую групу не спіраецца, ды толькі надужывае колішняе даверые, карыстаючыся тытуламі, якіх даўно пазбаўлены.

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні горача пратэстуе такжа і проці палітыкі францускага ўраду, які прыймае за прадстаўніка беларускага народу самазванца, ня слухаючы голасу законна выбранага ўсім беларускім насяленьнем Польшчы беларускага парляманцкага прадстаўніцтва ў асобах 11 паслоў Сойму і 3 сэнатараў, ды сьвядома тэндэнцыйныя і супярэчныя з праўдай заявы п. Ладнова трактуе, як запраўдны голас беларусаў, як-быццам пакрываючы гэтым сваім

становішчам ламаньне польскаю ўладаю вэрсальскага і рыжскага трактатаў і аснаўных пунктаў польскае канстытуцыі ў адносінах да нацыянальных меншасьцяў і гэтак правакуючы Польшчу да далейшага ўцісканьня сваіх грамадзян беларускае нацыянальнасьці.

## Ці толькі—спадчына „кернічызны“.

*(Заканапраект аб мясцовым „самаўрадзе“).*

(Гл. „Голас Беларуса“ № 4).

Але пабачым далей, як-жа адбываюцца выбары, паводле гэтай „пяціхвосткі“... без аднаго галоўнага хваста... Пры гэтым перавашна займемся гмінным самаўрадам, бо — ў ім галоўны інтарэс нашага сялянства.

Выбары праводзіць Гмінная Выбарная Камісія.—З каго-ж яна складаецца?

Старшыню і двух яе сяброў назначае т. зв. Выдзял Повятовы, які, як пабачым далей, складзены так, што рашучую, можна сказаць выключную ролю йграе сам п. Староста Павятовы. Двух другіх сяброў з пяцёх выбірае гміна.

З гэтага ўжо відаць, што п. Староста заўсёды мае большасьць у Камісіі і можа рабіць з ёй усё, што толькі хоча... Апроч таго, Выдз. Пов., гэта значыць п. Староста, можа дэлегаваць у Камісію „свайго прадстаўніка“, які „пільнуе, каб усё ў камісіі рабілася „правідлова“, як кажа Стараста...

Але і гэтага мала: Гмінная Рада можа быць распушчана тым самым Старостай, і тады і гэных двух выбарных сяброў Камісіі назначае „тымчасовы ўрад“ гміны, назначаны ізноў тым самым Старостай...

І вось, мы бачым, што ўжо ад самага пачатку стварэньня выбарных установаў „самаўрадаў“—заместа запраўды выбранай Камісіі, заместа запраўднага кантролю грамадзянства ў апошняй у асобах усіх пяцёх сяброў Камісіі сядзіць, так сказаць, той самы паўсюльістнуючы п. Староста...

І апрача таго—за ўсімі гэтымі 5 „старостамі“ ў Камісіі наглядае яшчэ шосты п. Староста, — у асобе „дэлегата“ ад „Выдзялу Павятовага“...

Кожнаму ясна, што м о ж а рабіцца ў гэткай „калегіі“ з 6 асобаў, якіх п. Староста можа вельмі лёгка прывясьці да пажаданай „едномысьльнасьці“...

Гэткі склад Камісіі, якая вельмі лёгка можа быць зусім пазбаўлена грамадзкага кантролю, мае тым больш небясьпекі, што арт. 24 Ордынацыі прадуглежывае магчымасьць „падзелу мандатаў (мейсц у Радзе Гміннай) без галасаваньня“...—гэта—„ў выпадку прызнаньня важным аднаго толькі кандыдацкага сьпіску“. Хто-ж „прызнае“ важнасьць ці няважнасьць сьпіскаў?— Ды вось гэтая самая Камісія з 5 „старостаў“ і шостага старостaвага „вуха“ і „вока“...

Значыцца, зусім ня можа лічыцца выключаным выпадак, калі даволі будзе п. Старосьце загадаць „сваім людзям“ у гміне ўлажыць „добры“, „правамысльны“ сьпісак кандыдатаў у Гм. Раду, а 6 „старостам“ у Камісіі—прызнаць усе іншыя, апроч яго, няважнымі...—дык ніякага галасаваньня нават і ня трэба: падзел мандатаў будзе зроблены бяз выбараў...

Грамадзяне-выбаршчыкі, якія ня згодзяцца з гэтым „падзелам“, могуць сабе „галасаваць“ нават на ўвесь голас дзе нябудзь у іншым месцы....

А калі да таго дадаць, што, паводле арт. 4 „Уставы аб вясковай гміне“, сябрамі гміны, а значыць і выбаршчыкамі, зьяўляюцца (зрэшта зусім слушна — у кожным нармальным гаспадарстве) толькі „obywatele“ Рэчыпаспалітай, якіх, як мы ведаем, родзіць, хрысьціць і хавае ў „сваім“ павеце той самы ўсемагутный п. Староста, дык роля гэтага запраўднага павятовага „бога“ на Крэсах у-ва ўсіх установах „самаўраду“, а перадусім у стварэньні „рэпрэзэнтацыі гміны“—яе Рады—стаче для нас ужо зусім яснай....

---

Але-ж гэта—яшчэ далёка ня ўсё.—

Паглядзім, як творыцца другая галоўная ўстанова ў гміне — яе Ўправа (Zarząd). І тут ізноў—дзеля „выбараў“ галавы Управы—войта—і яе сяброў — той самы ўседзяржыцель—Староста пасылае свайго „дэлегата“, які склікае Раду і старшынствуе ў ёй (арт. 57).

Выбарамі Управы кіруе камісія з 3 сяброў: „дэлегата“ Старосты і 2 іншых, якія назначаюцца гэтым самым „дэлегатам“ Старосты.—Ізноў, як і ў камісіі па выбарам у Раду, усей выбарнай справай „самаўраду“ кіруюць... тры „старосты“...

Але *недаверые да самаўраду*, да народу ў польскага ўраду йдзе так далёка, што нават дапраўды выбраных самім п. Старостай войта і лаўнікаў (сяброў Управы) Выдзял Павятовы, гэта значыць — той самы п. Староста можа, калі захоча, „уневажніць“, — выбары скасаваць і загадаць новыя (арт. 73 Ордынацыі Выборч.).

Трэба дадаць, што войт нават у чыста беларускіх гмінах павінен „валадаць польскай мовай у слове і пісьме“... Але—як „валадаць“, гэта таксама рашыць яго „эгзамінатар“ п. Староста...

---

Вельмі цікава, што, зводзячы літэральна да нуля ўсю самастойнасьць і самадзейнасьць мясцовага грамадзянства, заканапраект вельмі сурова карае „выбраных панам Старостай“ сяброў Рады за „нядбальства“; адсутнасьць „выбранага“ сябра Рады нават на адным толькі першым па выбарах паседжаньні Управы, „бяз важных прычынаў“, выклікае адразу ўтрату мандату... А „важнасьць“ ці „няважнасьць“ гэтай прычыны сьцьвярджае ізноў той самы п. Староста — у тым ці іншым сваім гмінным уцаленьні...

---

Ня можа быць выбраны сябрам Гміннай Рады паміж іншымі напр. той ці іншы карысны і суменны „платны працаўнік“ Управы (арт. 22) — няма ведама чаму... Але зусім добра можа быць выбраны, нават на войта, той ці іншы агент мясцовай паліцыі.

Праўда, — у гэтым выпадку пан паліцыянт павінен, зразумела, пакінуць службу (прынамсі адкрытую) ў паліцыі... Але зрачыся паліцэйскай службы ён павінен толькі тады, калі ён ужо выбраны і выбар прымае... Выбірацца-ж ён будзе ўсё-ж яшчэ ў „годнасьці“ пана паліцыянта...

І вось — у часе ўсей выбарнай акцыі зусім яшчэ ня будзе ведама, ці, напр. пан „пшодовнік постэрунку“, ці звычайны постэрунковы прыме выбарную пасаду па самаўраду,—ці адмовіцца ад паліцыі ці не... Дык ведама-ж, што гэткую высокую асобу, калі толькі яна, можа нават з вышэйшага даручэньня — з загаду самога п. Старосты, паставіць сваю кандыдатуру ў войты ці лаўнікі,—абавязкова трэба будзе выбраць,—куды толькі яна ні захоча!.. Бо калі яна—хай Бог крые!—будзе на выбарах правалена, дык ужо-ж пэўна што не адмовіцца ад паліцэйскага паста, але астанецца надалей у той самай гміне... І тады сябры гміны добра зразумеюць тую абмылку, што зроблена імі на выбарах...

І вось—каб гэтай абмылкі на выбарах ніколі ня было,—каб пан пшодовнік ці пан постэрунковы былі заўсёды выбраны напэўна, дзеля гэтага, як быццам спэцыяльна і „створаны арт. 35, які кажа, што, хаця „ўсе выбары наагул („з засады“... якую добра ведаюць паны польскія міністры!!!) адбываюцца тайным галасаваньнем“, але „ў выпадках прадбачымай аднамыснасьці („przewidywanej jednomyślności“)—вось-вось — акурат пры балатыроўцы паноў паліцыянтаў!.. дазволена („dozwolono“!..), па прапазыцыі старшыні, (гэта значыць—„дэлегата“ п. Старосты), выбары рабіць і адкрыта—праз падняцьце рук“ (арт. 35 „Уставы“)...

Зразумела—гэтак — шмат прасьцей: „прадбачучы аднамыснасьць“, дэлегат п. Старосты толькі запрапануе тым, хто *проці пана „пшодовніка“*, падняць як можна відней рукі...

І гэткія „заканапраекты“ пішуцца ў міністэрствах „Дэмакратычнае Рэспублікі“, якая лічыць сябе „прадмурам цывілізацыі на Ўсходзе“... і акцэптуюцца, як нешта паважнае, яе „народным прадстаўніцтвам“...

І ці-ж можна дапусьціць, каб у Варшаве ня ведалі, таго, што нідзе, на ўсім сьвеце, можа цяпер нават ужо й пасярод дзікароў сярэдняй Афрыкі, агент паліцыі, пакуль ён перад тым ня зрокся свайго паста, ня можа канкураваць на выбарах, да таго йшчэ адкрытых... Але ў „Польскай Беларусі“ дык ня толькі гэта ўсё можа, але і павінна быць бо інакш... ня ўтрымаеш „польскасьці“ на Крэсах!..

---

Паседжаньні Гміннай Рады, паводле Ўствы, адкрытыя публічныя. Гэтак — „з засады“. Але-ж, калі войт захоча, дык заўсёды знойдзе згодную з яго прапазіцыяй большасьць прысутных сяброў, каб зачыніць дзьверы паседжаньня, выгнаўшы зацікаўленую мо' нават чым запраўды цікавым у дзейнасьці Ўправы публіку (арт. 31)...

---

„Годнасьці“ сяброў Рады, войта і лаўнікаў—бязплатны. (арт. 28 і 42).—Гэта—„з засады“, праўду сказаць—зусім незразумелай!..

Але дзеля таго, што — хто-ж „валадаючы польскай мовай у слове і пісьме“, запраўды пойдзе дарма працаваць на карысьць беларусаў, — дык „за спаўненьне ўраду“ гміна *„абавязана плаціць* войту сталае адшкадаваньне“...

Войту—*абавязана*. Што датычыць лаўнікаў, якія не абавязкова павінны „валадаць польскай мовай“.., дык Рада толькі *„можа прызнаць* адшкадаваньне“, і то толькі—„ў асоба заслугоўваючых выпадках“...—(калі напр. яны валадаюць польскай мовай)...

А ўжо для радных, дык, калі ёсьць грошы, можна зьвярнуць кошты падарожы на паседжаньні Рады... (арт. 28 і 43).

Усё гэта можа й зусім слушна, бо-ж зорка ад зоркі рожніцца ў славе“, як гаворыцца ў Эвангеліі... Але „сабака закопана тут“, як кажуць немцы,—у тым, што ўва ўсіх гэтых „справах адшкадаваньня (ці плаціць наагул, а калі плаціць, дык сколькі) *аканчальна вырашае наглядная ўлада*“, гэта значыць ізноў той самы наш добры знаёмы—*п. Староста*, які гэткім чынам ня толькі, як мы ўжо ведаем, „родзіць, хрысьціць і хавае“ ўсіх прадстаўнікоў дэмакратычнага „самаўраду“ ў Польскай Рэспубліцы, але, як мы бачым цяпер, таксама *і корміць і поіць*, як добрая матка-карміліца, іх усіх—ад наятых „платных працаўнікоў“ да бязплатных“ радных, лаўнікаў і самога войта...

Заканапраект якраз і хоча, каб яны ўсе добра зразумелі, што *ня гміна* сама плаціць сваім працаўнікам і выбарным прадстаўнікам грошы за працу, ня гміна плаціць сталую пэнсію, якую, як гэта робіцца ўсюды на сьвеце, сама яна ўстаўляе, але—што гэта *„заместа гміны“*, як кажа, відаць ізноў добра разумеючы „засаду“ ўставадаўца, робіць той самы распараджаючыся ўсімі грашамі і ўсім дабром гміны, як сваімі ўласнымі, п. Староста...

Дзіва, што ён можа заўсёды „прадбачыць аднамыснасьць“, у якой хочаш гміннай справе...

Усе справы, належныя да Гміннай Управы, войт вырашае „самадзельна“.. (арт. 48). Гэта, паводле пана Керніка, азначае—„калегію Ўправы“!

Войт, які зьяўляецца, паводле заканапраекту, „выканаўчым органам“ Гміннай Рады (арт. 17) ня толькі „можа, але і абавязан затрымаць выкананьне пастановаў, калі прызнае іх незаконнымі, або шкоднымі“... і „матывы гэткага свайго рашэньня ён абавязан прадставіць Радзе не пазьней, як праз... 30 дзён“,—калі найчасьцей гэтыя пастановы ўжо страцілі як на часе, таксама і на сэнсе... Але-ж, калі Рада і тады йшчэ стаіць на сваім, дык войт можа пажаліцца на Раду... п. Старосьце (арт. 51),.. А што можа зрабіць з Радай „у парадку наглягу“ п. Староста, пабачым далей...

Але-ж і гэта яшчэ не канец „аднамыснай“ з п. Старостай „самастойнасьці“ самаўраду ў Польскай рэспубліцы...—

Відаць, ужо зусім спэцыяльна для чыста беларускіх гмінаў нашых Крэсаў, паны Солтан з Кернікам выдумалі нешта яшчэ лепшае...—

„Ваяводзкі сэймік можа у ўставадаўчым парадку, устанавіць для ўсіх, або для некаторых толькі гмінаў... пасаду „wojta zawodowego“, які „выбіраецпа (не на 4 гады, як звычайны), але *на 8 гадоў*.

Гэткі больш даўгавечны войт *можа і ня быць сябрам гміны* (беларусам...), але дзеля таго якраз і знаходзіцца пад асобай апекай польскай Уставы аб „мясцовым самаўрадзе“... І зараз пабачым, дзеля чаго. — Гэткаму „прафэсыянальнаму войту“ ня толькі сам пан Староста, коштам гміны, вызначае ўжо *сталую пэнсыю*, як урадоўцу, ня кажучы аб іншых коштах яго ўтрыманьня, але заканапраект забясьпечывае такога асобага войта і усю яго сям'ю, коштам гміны, і *эмэрытурай*, пры гэтым—ня толькі на выпадак „нядзольнасьці яго фізычнай ці ўмысловай, але і на выпадак... *ня выбару яго надалей*“ у той гміне, якая хаця раз яго „выбрала“...

Ясна, што, паводле думкі заканадаўцаў“, гэткі асобны войт павінен стаць „дажывотным войтам“, і за нявыбары яго на новыя 8 гадоў на гміну Уставай накладаецца кантрыбуцыя, *ці штраф* у відзе „эмэрытуры“, разьмер якое акрэсьляецца ізноў тым самым панам Старостай... — І — зусім слушна,—бо, калі войта назваў „заводовым“ ваяводзкі сэймік і прыслаў пан Староста, дык гміне астаецца толькі „выбраць“ яго на ўсё яго жыцьцё аж да сьмерці, забясьпечыўшы яго і яго сям'ю на ўсё жыцьцё, калі ён пасьля „выбараў“ акажацца „фізычна ці ўмыслова нядзольным“...

Вось якія цёплыя пасады прыгатаўляе на беларускіх Крэсах польскі заканадаўца, „прыроджаны гаспадар Польшчы“ — для сваіх найбольш заслужаных ваенных ці цывільных „вэтэранаў“, якіх прыдзецца з караной Польшчы гнаць са службы з прычыны іх „фізычнай ці ўмысловай нядзольнасьці“... „Эмэрытуру“ ім будзе плаціць коштам сваіх дараваных яму Польскай Рэспублікай „самаўрадаў“—беларускі селянін...—Бо-ж ясна, што гэты „прафэсыянальны войт“, якраз і выдуманы для гэтых чыста беларускіх гмінаў, у якіх ня знойдзецца мясцовых палякоў, і прыдзецца „валадаючых польскай мовай“ выпісываць з Пазнані ці з Галілеі, застрахаваўшы іх зразумела ад усялякай рызыкі на выбарах...

Мы ня будзем пералічаць вычэрпываюча ўсе тыя недарэчныя ці агідныя рэчы, якімі перапоўнены, як бачым, гэты плод заканадаўчай думкі польскага „дэмакратызму“, бо прышлося-б амаль ня цалком перадрукаваць гэтыя праекты.

Даволі сказаць, што нават галоўнае права „гміннага парлямэнту“, як і кожнага іншага на сьвеце, якое перадусім становіць істотным зьмест, сэнс і гарантыю запраўднай самастойнасьці самаўраду, гэтак званае *„права скарбу“*, якое кажа, што без пастановы Рады ня можа быць выданы ні адзіны грош, гэтак сама цынічна ў праектах гвалціцца, як і ўсе іншыя...

Кажучы галосна, што „Рада пастанаўляе ў-ва ўсіх справах, зьвязаных з задачамі самаўраду, а перадусім у справах буджэтных, якія не засьцяражаны ўправе“, гэта значыць войту, заканапраект дае права войту зусім ня лічыцца з ніякімі пастановамі Рады (арт. 69 і інш.).

---

Але, як мы ўжо казалі і бачылі, над усім гмахам „самаўраду“ „чува“ нядрэмнае вока п. Старосты, які зьяўляецца запраўдным начальствам і камандзірам „самаўраду“.

„У парадку дзяржаўнага нагляду“ Староста можа рабіць з гмінай і ўсімі яе бяз усякага вынятку ўстановамі ўсё, што толькі яму прыдзе ў галаву...

Заканапраект дае Старосьце нічым не абмяжаванае права ня толькі сачыць за *законнасьцю дзейнасьці* самаўраду, (што істнуе паўсюль) і „спыняць“ пастановы гмінных уладаў, нязгодныя з істнуючымі ўставамі (арт. 92); але Староста можа неабмяжавана шырока *ўмешывацца і ў чыста гаспадарчую* дзеяльнасьць гміны, крытыкаваць і „ўхіляць“ *мэтнасьць* гэтай дзеяльнасьці, указываць ёй пажаданы для яго, пана Старосты, лепшы на яго смак, напрамак гэтай працы „самаўраду“,—мае права *касаваць* адны пастановы і выдаткі, *загадываць* другія, зацьвярджаць ці адкідываць прыняты Гміннай Радай буджэт і г. д.

---

„Наглядная ўлада“, гэта ёсьць сам Стараста мае права, паводле праекту, „злажыць“ ці папросту—*выгнаць „са службы“* любога сябра „самаўраду“—выбарнага ці нявыбарнага ўсё роўна...—калі яны,—паслухайце ўважна! — „нарушаюць абавязкі свайго ўраду або сваім павядзеньнем у ўрадзе ці

